БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

14 чэрвеня 1994 г.
Аўторак
№ 64(13781)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК




## На эстрадным небасхіле заззялі новыя зоркі

12 чэрвеня ўрачыстым канцэртам закрыцця скончыўся II Рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна —94". Сярод чатырнаццаці ўдзельнікаў конкурсу вызначылася восем лепшых выканаўцаў. Так, два трэція месцы занялі Таццяна Каліна з Камянца і Ірына Дарафеева з Магілёва, тры другія — падзялілі спявачкі з Віцебска Алена Літоўка , Ларыса Грыбалёва і Таццяна Воранава, а два першыя засталіся за мінчанкай Наталляй Тамелай і Леанідам Вайтовічам з Рэчыцы. Шэсць канкурсантаў атрымалі званне дыпламантаў, а Гран-Пры і галоўны прыз —аўтамабіль "Жыгулі" — дастаўся Наталлі Кудрыной з Магілёва (на здымку).

**Майя ШЭНДРЫК.**
**Фота Аляксандра КУШНЕРА.**



## Кур'ер "ЧЗ"

### Партыя праводзіць канферэнцыю

*На 18 чэрвеня, за пяць дзён да прэзідэнцкіх выбараў, назначана канферэнцыя Партыі народнай згоды. Яе мэта — афармленне новых партыйных структур, якія зніклі ў ходзе збору подпісаў за вылучэнне лідэра партыі Генадзя Карпенкі кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.*

У цэнтры ўвагі актыву ПНЗ, як чакаецца, будзе аналіз падобнай палітычнай сітуацыі і выпрацока пазіцыі на маючых адбыцца выбарах першага прэзідэнта Беларусі.

### Чый груз?

*Прэс–цэнтр ініцыятыўнай групы кандыдата ў дэпутаты А.Лукашэнкі зрабіў заяву ў сувязі з паведамленнямі аб затрыманні на граніцы грузу друкаванай прадукцыі, якая мае адносіны да выбарчай кампаніі названага кандыдата.*

Ні А.Лукашэнка, ні ініцыятыўная група не маюць адносін да затрыманага на мытні грузу замежнай вытворчасці, гаворыцца ў заяве. У сваіх расходах на выбарчую кампанію кандыдат зыходзіць з сум, устаноўленых Цэнтрвыбаркамам. Сам гэты факт у заяве расцэньваецца або як правакацыя, або як спроба прыватнай асобы зарабіць грошы на імені кандыдата ў прэзідэнты.

### Віцебскі "форт" для "Белфорта"

*Сваю "заставу" вырашыла размясціць бліжэй да паўночнай граніцы рэспублікі буйная мінская фірма "Белфорт" — афіцыйны дылер вядомай японскай кампаніі "Рызоксеракс", якая выраб–ляе размнажальную тэхніку і іншае офіснае абсталяванне.*

Першая выстаўка гэтых высакаякасных тавараў, акрамя сталіцы, адбылася ў Віцебску. Месца паказу — гарадскі цэнтр культуры — выбрана невыпадкова: ён з'яўляецца "штабам" маючага адбыцца міжнароднага фестывалю "Славянскі базар", і "Белфорт" будзе забяспечваць інфармацыйныя патрэбнасці гэтага музычнага шоу, паклаўшы, такім чынам, пачатак свайго бізнесу на перыферыі рэспублікі.

У адрозненне ад даволі марудных дысплеяў, якія раней абслугоўвалі прэс-цэнтр "Славянскага базару", рызографы (так называюцца апараты, якія прапануе "Белфорт") за лічаныя мінуты капіруюць масавым тыражом тэксты ці відарысы, у тым ліку і каляровыя, на любой паперы.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Жудасная знаходка

*У нядзелю сталічны мікрараён Паўднёвы Захад уразіла жудасная знаходка: сярод белага дня мясцовая бабулька ля ўваходу ў падвал дома № 28, што на праспекце "Известий", натрапіла на два трупы хлопцаў з нажавымі ранамі.*

Паводле папярэдніх звестак, іх забілі ноччу ды адцягнулі за кусты, кінуўшы побач з пад'ездам. І калі б не бабулька, невядома колькі б яшчэ яны там праляжалі. Нашая раз'яднанасць не давядзе нас да дабра...

**(Ул.інф.)**

### "Батлейка" на Валожыншчыне

*Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка", які знаходзіцца і працуе ў Маладзечна, наведаў Валожын, дзе паставіў два спектаклі паводле п'есы Алены Туравай "Казкі Несцеркі".*

Неўзабаве новыя прыгоды казачнага Несцеркі і ягоных маленькіх сяброў пабачаць дзеці з Вілейкі, куды мяркуецца творчая вандроўка батлеечнікаў.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Гора ад розуму

*Калісьці Аляксандр Пушкін вуснамі Барыса Гадунова вымавіў:"Учись, мой сын, и лучше и яснее ты будешь труд державный понимать". Таму і стараліся вучыцца ягоныя нашчадкі.*

Але сёння выйшла чамусьці так, што адукаваныя галовы не толькі не сталі лепш "труд державный понимать", а ўвогуле не могуць зразумець, што адбываецца і якое знайсці прымяненне свайму розуму. Так, напрыклад, у Наваполацку кожны пяты малады чалавек з дыпломам тэхнічнага профілю адпаведнай вышэйшай навучальнай установы аказаўся беспрацоўным.

Паводле звестак Цэнтра занятасці, у мінулым месяцы шукалі работу 104 інжынеры-будаўнікі, 37 інжынераў-тэхнолагаў, 44 інжынеры-механікі, 58 інжынераў-канструктараў.

Вось і разумей тут як хочаш "великий труд" незалежнай дзяржавы Беларусь, ейны клопат пра сябе ды сваіх грамадзянах.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

### Зноў рок пад забаронай?

*У мінулую пятніцу перадвыбарчая палітычная акцыя беларускіх музыкаў — цыкл канцэртаў "Рок за БНФ" распачалася ў Барысаве... скандалам.*

Атрымаўшы папярэднюю згоду Барысаўскага гарвыканкама, у той дзень арганізатары прывезлі на месца апаратуру, своечасова прыехалі музыкі гурта "Крама". Загадзя былі расклеены афішы, таму прыйшла і публіка... Але канцэрт не адбыўся: гарвыканкам нечакана рэзка змяніў рашэнне і забараніў канцэрт. Загад быў вусны, але мэр горада паабяцаў пазней аформіць яго пісьмова.

Невядома, на чыю карысць гэтая перадвыбарчая гульня ў адны вароты, калі супраць пэўных сіл зусім недэмакратычна кідаюць увесь дзяржаўны апарат, але ад гэтага акрамя маральных страт у некаторых людзей ёсць і страты матэрыяльныя. Ва ўсякім разе гэта стала адной з падстаў, паводле якіх арганізатары канцэрта вырашылі паклікаць старшыню Барысаўскага гарвыканкама т.Капуцэвіча ў суд. Чым закончыцца гэты разбор мы паведамім нашым чытачам пазней.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

### Першая выстава дзевяцігадовай мастачкі

*У выставачнай зале брэсцкага музея "Выратаваныя каштоўнасці" наладжана персанальная выстава твораў Ані Страпко. Акрамя мастацкай каштоўнасці незвычайнасць выставы і ў тым , што мастачцы толькі 9 год.*

Аня наведвае гарадскі Дом дзіцячай і юнацкай творчасці, дзе займаецца ў студыі выяўленчага мастацтва пад кіраўніцтвам Вольгі Арловай. Прадстаўлена 21 праца жывапісу і графікі. Цікавыя нацюрморты, краявіды, створаныя акварэльнымі фарбамі. Таленавітая дзяўчынка глядзіць на нас, такіх заклапочаных бытам, з алоўкавага "Аўтапартрэта" . Яна ціха адводзіць погляд і думае пра нешта сваё, цікавае і жывапіснае.

**Уладзімір СУХАПАР.**

### Здарэнне на мытні

*Ашмянскай мытняй затрыманы тры аўтамашыны, гружаныя магніем, якія транзітам праз тэрыторыю нашай рэспублікі везлі гэты груз з Расіі для адной галандскай фірмы. Дакументы на перавозку былі аформлены Маскоўскай рэгіянальнай мытняй, ніякіх падазрэнняў не выклікалі.*

У нашых мытнікаў пытанне выклікаў іншы факт. У дакументах значылася, што ў кожнай машыне знаходзіцца па 16 тон магнію, аднак грузавікі, мяркуючы па ўсім, былі яўна перагружаны.

Падазрэнні мытнікаў апраўдаліся пасля ўзважвання грузавікоў. Высветлілася, што магнію ў іх знаходзіцца аж на 22 тоны больш, чым значыцца ў дакументах.

У выніку быў складзены адпаведны пратакол. Да разгляду гэтай справы судом груз затрыманы.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Курсы валют на 13 чэрвеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 22360 | 23000 | 13416 | 13800 |
| "Прыор" | 22300 | 22800 | 13350 | 13700 |
| "Пошук" | 22000 | 22500 | 13350 | 13700 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

# "Залатыя альбомы" агучваюцца па-савецку

□ **Якаў ЯСЭПКІН**

*Здаецца, не памыляўся Павел Глоба, калі прадракаў на гэтыя часы ўзмацненне напалу палітычнага саперніцтва на Беларусі. Яно і сапраўды ўзмацняецца, балазе, ёсць для таго падставы. Ідзе жорсткая барацьба за прэзідэнцтва, удзельнікі якой выхопліваюць, нібыта факіры з чорных рукавоў, новыя і новыя цуды–козыры.*

Падзеяй апошніх дзён, своеасаблівым эпіцэнтрам выбарчага марафону сталі выступленні на Беларускім радыё і тэлебачанні прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла. Уласна кажучы, адбыўся масавы выхад з андэграўнда шэрагу прадстаўнікоў палітычнага бамонду. Згодна з заканадаўствам, на кожнага з кандыдатаў прыпадае па пяць гадзін свабоднага словавыяўлення (пароўну на радыё і тэлебачанні). Умоўная сцяна маўчання зруйнавалася, а пытанняў пакуль застаецца зашмат. Людзі, якія чакалі хуткага адказу на іх адразу ж пасля адкрыцця для кандыдатаў камунікацыйнай прасторы, мабыць, і крыху расчараваны. Па-ранейшаму дастаткова няпроста спрагназіраваць, куды хіснецца маятнік народнага даверу.

Напрыканцы шляху да прэзідэнцкай пасады вырашаецца літаральна ўсё. Пад час выступленняў перад рэспубліканскай аўдыторыяй прэтэндэнты могуць як страціць набытае раней, так і набыць страчанае. Вядома, яны гэта добра разумеюць, аднак не ўсё ў іх уладзе. На працэс "легалізацыі" ўплываюць самыя розныя фактары. Сёння высвятляецца кошт якаснай маркі, узроўню прафесійнага стандарту работы імідж-мейкераў (калі такія былі) са змагарамі за пасаду. У новых для беларускіх палітыкаў варунках поўнай галоснасці менавіта падобныя намаганні маюць рашаючае значэнне. Але і ў такой складанай справе, як стварэнне палітычнага вобраза, ёсць пэўныя элементарныя рэчы, даўно стаўшыя агульным месцам. Няма патрэбы пераконваць прыхільнікаў, галоўная задача ў тым, каб адцягнуць ад канкурэнтаў па магчымасці большую частку іх электарату. А для таго карыстаюцца самым распаўсюджаным прыёмам уваходзячы ў вобраз "свайго сярод чужых, чужога сярод сваіх" ці чалавека, які добра разумее клопаты і праблемы ўсяго грамадства, які задаволіць усіх.

Аднак дагэтуль "свяшчэнную карову" прамога тэлерадыёэфіру амаль што не кранаюць і не турбуюць. Агульны перадвыбарчы фон застаецца, бадай, без прыкметных змен па трывіяльнай прычыне — кандыдаты не выкарыстоўваюць вялізную, ледзь не казачную сілу тэлевізійных сафітаў, радыёўнушэння. Шляхам "кашпірызацыі" ніхто не пайшоў з-за адсутнасці не толькі вопыту ці жадання, а і таленту пераўвасаблення. Між тым, ва ўсіх на памяці прыклад, які стаў ўжо постсавецкай міфалагічнай класікай — трыумф расійскіх ліберал-дэмакратаў, галоўным дасягненнем якіх (а, дакладней, аднаго толькі Жырыноўскага) якраз і быў уражальна-прафесійны поспех на электронным подыуме. Такі вопыт нельга не ўлічваць, калі жадаеш перамагчы. Зразумела, з папраўкамі на час і месцадзеянне, але без прынцыповых адрозненняў. Бо ён з парадку агульнавядомых і прызнаных у сусветнай практыцы. Сёння месца "воіна-ратавальніка" пад сціплым беларускім сонцам публічнасці застаецца свабодным. Мяркуючы па першых выхадах у эфірнае рысталішча, на лаўры яўнага лідэра ніхто не прэтэндуе. Фігуральна кажучы, "залатыя альбомы" праграм і абяцанняў агучваюцца па-савецку, з уласцівымі позняму застою і да болю знаёмымі народу штампамі, што само па сабе ніяк не адаб'ецца на выніках выбараў.

Перад пачаткам тэлерадыёімпрэзы шматлікія эксперты сыходзіліся ў адным: ёсць уяўныя фаварыты, прэтэндэнты, якія валодаюць прамоўніцкім талентам, ёсць і кандыдаты з першапачатковымі выйгрышнымі вэксалямі ў руках. Хто прад'явіць свае дывідэнды з большым майстэрствам, а то і з бляскам, — будзе ў фаворы. Пакуль кола Фартуны круціцца дзесьці ўдалечыні, ніхто не спяшаецца выкарыстаць пераможныя козыры. Усе ведаюць, напрыклад, што Станіслаў Станіслававіч — інтэлектуал, добры прамоўца. Дадатковая дэманстрацыя гэтых якасцей наўрад ці паспрыяе набыццю новых прыхільнікаў і адпаведна павелічэнню электарату. Нешта падобнае людзі не раз бачылі пад час рэпартажаў з парламенцкай авальнай залы. Імідж такі ж самы. Няцяжка зразумець ход разважанняў выбаршчыкаў — быў пры ўладзе, меў магчымасці... Аднак у параўнанні з астатнімі ўдзельнікамі чэрвеньскага тэлерадыёшоу,ён не прайграе. Зянон Пазьняк пакуль не песціць сваімі выступленнямі ў студыі, прапанаваўшы, у прыватнасці, гледачам стужку "Невядомы Пазьняк" (не лепшы прыём, бо эфектыўнасць пракату сюжэтных ролікаў не адпавядае напалу прамога эфіру). Дарэчы, залішняя ўвага да "кліпавай" агітацыі з боку шэрагу прэтэндэнтаў таксама сведчыць аб не зусім удалай рабоце імідж-мейкераў. Пакуль "гарачы" эфір лепш за іншых выкарыстоўвае Аляксандр Лукашэнка, але пад пытаннем павелічэнне і пашырэнне ягонага і без таго вядомага "кола падтрымкі". Хутчэй за ўсё, не прыбавіцца прыхільнікаў новай камуністычнай ідэі пасля выступленняў Васіля Новікава. Тым часам набірае папулярнасць другі "чалавек эфіру" — Іван Антановіч. Калі і надалей доктар філасофіі працягне сваю місіянерска-асветніцкую (прычым, высокапрафесійную і з інтэлектуальным шармам) дзейнасць на тэлебачанні, астатнія прамоўцы-прэтэндэнты могуць не проста страціць прывабны свецкі глянец, а і згубіць багата галасоў, якія аўтаматычна адыдуць да прэм'ера..



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*

## "Суперчэннэл"

### НЕ ТРЭБА БІЦЬ СЯБЕ КІНЖАЛАМ ПА ГАЛАВЕ

*Міністэрства ўнутраных спраў Ірана забараніла людзям... наносіць сабе ўдары кінжалам у галаву пад час шыіцкіх рытуалаў.*

Такое рашэнне падмацавана цытатай з выказванняў духоўнага лідэра аяталы Алі Хамейні:"Нанясенне кінжалам ран на галаве не з'яўляецца ісламскай традыцыяй. Мы не павінны рабіць такіх рэчаў, з-за якіх нас палічаць прымхлівымі і неразумнымі мусульмане і немусульмане ўсяго свету".

### АХВЯРЫ Ў КІТАІ

*У выніку паводкі ў Паўднёвым Кітаі загінулі сама меней 42 чалавекі.*

## "Еўраньюс"

Прычынай стыхійнага бедства стаў тайфун, які прыйшоў з захаду. Паводле афіцыйных паведамленняў, больш дакладныя звесткі будуць атрыманы, калі каманды выратавальнікаў дабяруцца да пацярпеўшых ад стыхіі раёнаў.

### ДЫЯЛОГ ДАНАХ'Ю І ЗАБОЙЦЫ

*Філ Данах'ю, вядомы амерыканскі тэлешоумен, звярнуўся ў Вярхоўны Суд ЗША з просьбай зняць на плёнку пакаранне чалавека, які быў прыгавораны да вышэйшай меры за забойства.*

Дэвід Лоўсан прызнаны віноўным у забойстве, ажыццёўленым у 1980 годзе. Ён запрасіў Данах'ю для здымак пакарання, каб прыцягнуць увагу тэлегледачоў да "жорсткай і нязвыклай прыроды смяротнага пакарання".

### "БОІНГ–777" – У ПАВЕТРЫ

*Рэактыўны самалёт "Боінг–777" упер–шыню адарваўся ад зямлі...*

Гэта самы вялікі самалёт у свеце з двума рухавікамі. Ён знаходзіўся ў паветры тры гадзіны, робячы "фігуры" над заводам у штаце Вашынгтон, дзе і быў сабраны. Сучасны лайнер "паляціць" да заказчыка — "Юнайтэд Эрлайнз" — у маі наступнага года.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

